оказаться в хитросплетении исторических событий, жизненных коллизий и биографий.

Безусловная ценность краеведческих очерков, вошедших в новую книгу Тины Хуторянки, — в так называемом «дыхании подробностей». Именно насыщенность текста историко-бытовой конкретикой помогает воссоздать колорит описываемой эпохи, изучить малоизвестные исторические факты, окунуться в обычаи, традиции, местный говор, в особенности крестьянского быта былых времен, лучше понять алгоритм взаимоотношений людей, проследить этапы развития родного села Черни и в целом Прибужья и белорусского государства.

Не погрешу против истины, если назову Тину Хуторянку (Валентину Карпеш) земской писательницей. От забытого термина «земство» и не умирающего слова — «земля». Она не только описывает хорошо знакомую и близкую ей землю, территорию, людей, природу, народные традиции, — она живет среди них. Она не зацикливается на «авторитете» общеизвестных исторических лиц, но возрождает забытые имена земляков. Со страниц очерков возникает вереница персонажей, людей различного занятия, звания, общественного положения, интересов. Они разные и очень близки автору своей непоказной особенностью, добротой, первозданностью души. Но главный герой повествования — сама автор. Она многое знает, умеет, помнит и, собственно говоря, на ее генетической памяти прошлого, связи его с настоящим и грядущим, верности родному краю, в сущности, все повествование и держится.

Очень примечательно то обстоятельство, что данная книга подготовлена и, надеюсь, увидит свет в Год малой родины. Побольше бы нам таких «земских» авторов и произведений!!!

*Александр ВОЛКОВИЧ,*
*член Союза писателей Беларуси*

# Святло веры і духоўнасці

Чарговая кніга Надзеі Парчук выдадзена ў гонар Святога вялікамучаніка Георгія Перамоганосца, імя якога носіць праваслаўны храм у Брэсце (раён Вычулкі).

Акрамя паэмы і вершаў, прысвечаных Георгію Перамоганосцу, у зборнік увайшлі прысвячэнні святыцелю Мікалаю Цудатворцу, Еўфрасінні Полацкай, Сафіі Слуцкай, Афанасію Брэсцкаму ды іншыя творы на духоўную тэму, а таксама — у якасці прадмовы — філасофскія разважанні аўтара аб веры і духоўнасці.



# Незабыўная сустрэча з паэткай

**На пачатку кастрычніка бягучага года брэсцкая паэтэса Надзея Парчук як дарагіх гасцей прымала ў сябе дома настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Стытычаўскай сярэдняй школы Пінскага раёна Людмілу Іванаўну Сачкоўскую і вучаніцу 9 класа гэтай жа школы Ганну Тынавец.**

Яны наведалі сваю знакамітую зямлячку з, так бы мовіць, рабочым візітам. Справа ў тым, што Ганначка з вялікай адказнасцю ўзялася за напісанне даследчай работы «Малая радзіма ў творчасці Надзеі Парчук». Але як жа гэта па-літаратурнаму цікава напішаш, калі ні разу не сустракаліся з паэтэсай, не размаўлялі з ёю, не чулі яе голасу, а тым больш — не адчувалі на сабе яе прыязнага позірку, дабрыні і цеплыні яе творчай душы? Вось з гэтай нагоды настаўніцы і давялося рана-ранюсенька



сабрацца ў няблізкую дарогу, каб везці сваю падапечную ў абласны цэнтр, дзе зараз жыве паэтэса.

На шчасце дзень 3 кастрычніка выдаўся цёплым, па-асенняму пагодным, таму й дарога за вокнамі аўтобуса весела бегла-вілася наперад, раскрываючы перад пасажырамі ўсё хараство кастрычніцкай прыроды.

Надзеі Мікалаеўне таксама не спалася. Яна раней звычайнага паднялася і пачала рыхтавацца да сустрэчы з незвычайнымі гасцямі...

«Наша Ганначка — са шматдзетнай, прыстойнай сям'і, добра вучыцца ў школе, старанна дапамагае бацькам па гаспадарцы і падсабляе ім у выхоўванні малодшага брацікa», — пахваліла Людміла Іванаўна сваю вучаніцу, заходзячы ў пакой да паэткі. Тая лагодна зірнула ў вочы дзяўчынцы і сказала: «Вельмі прыемна. Паболей бы ў свеце такіх цудоўных школьнікаў і багатых на дзяцей сем'яў...» Так непрыкметна паміж землякамі трох пакаленняў і завязалася нязмушаная, цікавая размова, якая хутка перарасла ў па-сапраўднаму сяброўскі, творчы дыялог.

Хочацца заўважыць, што сустрэча доўжылася ажно пяць гадзін і атрымалася не толькі літаратурна-дзелавой, але і сапраўды шчырай, цёплай, паэтычна-творчай. Ганну Тынавец цікавіла ўсё пра жыццё і творчасць паэтэсы: калі напісала першы верш,

поспехі і дасягненні ў літаратуры, чым жыве зараз, якія планы і задачы на будучае, які з уласных вершаў лічыць любімым, з якімі пісьменнікамі сябруе, што значыць для яе Дзень беларускага пісьменства, ці сумуе па радзіме, як часта наведваецца ў родныя мясціны? Надзея Мікалаеўна старалася змястоўна і грунтоўна адказваць на пастаўленыя пытанні сваёй даследчыцы. Тая ўважліва лавіла кожнае сказанае ёю слоўка, нешта занатоўвала ў блакноцік, фіксавала на смартфоне дыпломы, граматы і іншыя ўзнагароды за літаратурную дзейнасць пісьменніцы.

Затым госці зрабілі сабе на памяць некалькі здымкаў з паэтэсай, не забыліся і пра выставу яе ўласных кніг. Як настаўніца, так і вучаніца атрымалі ў падарунак ад Надзеі Парчук па некалькі кніг з аўтарскім аўтографам.

Час сустрэчы для ўсіх праляцеў незаўважна хутка, прыемна, а галоўнае — плённа. Развітваючыся з Надзеяй Мікалаеўнай, Людміла Іванаўна выказала цвёрдую ўпэўненасць на будучы год вітаць пісьменніцу ў Стытычаўскай школе ці нават у Доме культуры іхняй вёскі.

Ах, якая малайчына
Наша Ганна Тынавец!
Каб спазнаць сваю Айчыну,
Едзе ў Брэст, на Мухавец,
Дзе жыве яе зямлячка —
Ў свет пасланы Богам дар —
Красамоўная мастачка,
Краю роднага пясняр.

Думаецца, што гэтая сустрэча запомніцца ім на ўсё жыццё. Менавіта ў гэтым і заключаецца галоўны сэнс і найпершы вынік незабыўнай размовы, якая адбылася ў Брэсце, у доме па вуліцы Крынічнай.

*Мікола ПАНАСЮК*



# Ад першадрукара Скарыны да сучаснай беларускай кнігі

**У першую нядзелю верасня Беларусь урачыста адзначыла Дзень беларускага пісьменства и друку. У гэты дзень мы заўсёды аддаём даніну павагі ўсім тым, хто стаяў ля вытокаў беларускага мовазнаўства. Вось і сёлета на пачатку вучэбнага года гэтае свята сабрала вучняў 4-х класаў у Дамачаўскай горпасялковай бібліятэцы.**

Да Дня беларускага пісьменства бібліятэкар Наталля Георгіеўна Тапалава падрыхтавала тэматычную экспазіцыю «Ад першадрукара Скарыны да сучаснай беларускай кнігі». З кніг, якія былі на ёй прадстаўлены, можна было даведацца шмат цікавага пра гісторыю станаўлення і развіцця беларускага пісьменства, кнігадрукавання, аб выдатных беларускіх асветніках.



Дзякуючы мерапрыемству, юныя наведвальнікі бібліятэкі здзейснілі падарожжа ў глыбіню гісторыі ўзнікнення пісьменства, кніг, кнігадрукавання. З вялікай цікавасцю паглядзелі дакументальны фільм, з якога даведаліся пра тое як і з чаго робяць паперу, хто такі Францыск Скарын, і якая кніга была першай надрукаваная на роднай беларускай мове.



Пад час мерапрыемства яго ўдзельнікі змаглі бліжэй пазнаёміцца з традыцыямі святкавання Дня беларускага пісьменства ў Беларусі. Даведаліся яны і пра тое, што за час правядзення, свята набыло агульнанацыянальны статус, стала значнай падзеяй у культурным жыцці краіны.

Напрыканцы мерапрыемства рабяты змаглі праявіць сваю эрудыцыю, адказалі на пытанні віктарыны.

## Ціна ХУТАРАНКА

# Рукадзельніца

— Усе мае дзеці прыгожыя і таленавітыя! — заўжды з гонарам заяўляю пры размовах са знаёмымі. — Прыгажосць і талент — гэта тое, што нельга купіць ні за якія грошы! Нават, за самыя вялікія... Усе трое здольны марыць, жыць у свеце, прыдуманым іхняй фантазіяй. Таму ўсе трое і лічаць сябе шчаслівымі. Яны жывуць у сваіх паветраных замках і адтуль з цікаўнасцю паглядаюць на зямлю...

Як маці назірала за здольнасцямі сваіх дзяцей з самага іх дзяцінства і бачыла іхнюю цягу да прыгожага і імкнулася развіваць яе. Калі Міхась з Таццянкай былі школьнікамі пятых-шостых класаў, разам з імі, вечарамі напралёт, займалася выпальваннем малюнкаў на фанерных дошчачках.

Міхаська сам маляваў малюнкі, сам іх выпальваў, а потым сам расфарбоўваў і пакрываў лакам. Самым прыгожым атрымаўся ў яго ветразевы карабель «Санта Марыя», на якім Калумб вярнуўся з кругасветнага марскога падарожжа вакол Зямлі.

Таццянка ж адкалькоўвала на дошчачкі ката Леапольда і лятучых залатагрывых коней з казкі пра канька-гарбунька.

Усе гэтыя дзіцячыя рукатворныя карцінкі доўгі час упрыгожвалі сцены хаты. Акрамя таго, Таццянка ў школе ахвотна наведвала гурток рукадзелля «Умелыя рукі», дзе дзяцей вучылі розным старадаўнім народным умельствам. І там! У яе ўсё выдатна атрымоўвалася. Некаторыя яе вышыванкі дэманстраваліся на вялікіх выстаўках творчасці школьнікаў, а потым доўгі час віселі і ўпрыгожвалі сцены роднай школы.

Але прайшоў час. Дзеці сталі дарослымі. Жыццё стала дыктаваць свае ўмовы і прымусіла выбіраць у ім свой накірунак, па якім і прыйшлося крочыць наперад.

Дзяўчына захапілася вышываннем па-сапраўднаму перад сваім замужжам. Па даўнішнім народным звычаям на вяселле патрэбны былі ручнікі. Іх можна было купіць гатовымі, бо ў крамах прадаваліся фабрычныя, а на базары вышытыя на канве. Але маці, выдатна ведаючы здольнасці сваёй таленавітай дачушкі, неяк прапанавала ей:

— Таццяна! Самаробныя ручнікі — гэта твая энергетыка! У іх будзе жыць твая душа. Раней кожная дзяўчына сама сабе гатавала пасаг. Вазьміся і ты за гэтую справу. У цябе выдатна павінна ўсё атрымацца.

Дачка выслухала параду матулі і стала ствараць прыгажосць. Яна знайшла выдатныя ўзоры і занялася аздабленнем ручнікоў з хатняга льнянога палатна.

Лён, яшчэ перад Вялікай Айчыннай вайною, сеяла яе прабаба Анісся. Жанчына сама яго трапала, сама часала, прала на верацяно, ткала, а потым палатно мачыла ў балоце і адбельвала на ранішніх расах.

Калі настаў час, то цэлы сувой гатовага льнянога палатна дала сваёй дачцэ Марыі ў пасаг. З нейкай часткі яго тая пашыла сабе ручнікі для кухні, а астатні кусок застаўся, і цэлае яе жыццё зберагаўся ў куфры на гарышчы.



Таццяна ЛЕВАНЮК. Персанальная выстава ў Брэсцкай раённай цэнтралізаванай бібліятэцы

А калі настаў час, у які ўнучка збіралася да шлюбу, то бабуля дастала са скрыні палатно і падаравала яго ёй. Таццяна разрэзала увесь кавалак на ручнікі, якія і пачала ўпрыгожваць вышыўкамі і мярэжкамі.

Захапленне вышыўкай карцін прыйшло да яе на вялікім пераломе лёсу. Лодка яе сямейнага жыцця разбілася аб скалістыя берагі жорсткага неразумення яе летуценнай натуры. У такіх выпадках звычайна гавораць:

— Не зыйшліся характарамі...

Яно, можа, і так... Бо з замужжа дзяўчына вярнулася дадому ў родныя сцены дзядулевай хаты з дачушкай на руках. Ёй было цяжка. Маці бачыла, як пакутуе яе дачка і ўсяк старалася падтрымаць яе дух.

Аднойчы мне давялося пабываць ў гасцях сваёй недалёкай радні. Там стараліся здзівіць багаццем мэблі, дываноў і шпалераў. Але я звярнула ўвагу толькі на вышываныя карцінкі, якія віселі на сценах кватэры.

— Нікога раскошай не здзівіш. Зараз, калі ёсць грошы, то можна купіць усё, што хочаш. Можна наняць майстроў, і тыя выканаюць любы рамонт. А вось, вышываць — гэта дадзена не кожнаму. Тут акрамя акуратнасці і майстэрства валодання іголкай, трэба мець велізарнае цярпенне. А яно не прадаецца, яго не выйграеш на латарэйны білет ці ў карты, яго ніхто не падарыць. Гэты талент даецца толькі самім Богам!

Пасля вандроўкі ў госці прапанавала для дачкі:

— Таццяна! Займіся вышываннем карцін. Ты ж маеш вялікія здольнасці ў галіне гэтай творчасці. Я бачыла ў родзічыхі вышываныя малюнкі і мяне гэта ўразіла. Паспрабуй і ты... Тут ты нічога ж не згубіш, а толькі прыдбаеш...

І маладзіца, пагадзіўшыся з меркаваннем маці, пачала займацца гэтай

справай. Адна за другой пачалі з'яўляцца карцінкі. Спачатку невялічкія. А потым яна вышыла жаночы вобраз «Зімы» у памерах: семдзесят на пяцьдзесят. Над гэтым творам яна працавала амаль год. Зараз у яе калекцыі ўжо болей пяцідзесяці манументальных, прыгожых карцін.

З цягам часу лёс выправіў накірунак і закінуў Таццяну на працу ў раённую бібліятэку, дзе яна стала працаваць бібліятэкарам бібліобуса, у якім яна ездзіць па ўсяму раёну і вязе з сабою людзям святло прыгожай духоўнасці.

Працуючы там, паступова маладзіца ператврылася з непрывабнага гусянятка ў пышнага белага лебедзя.

Зараз яна выстаўляе свае карціны на розных выставах, імі ўпрыгожваюцца сцены залы мясцовага РДК у час свят высокага ўзроўня. Таццяна стала майстрам высокай пробы ў сваёй справе. Кожная яе карціна — гэта шэдэўр! Які годны вісець на сценах знакамітых калекцый...

Ёсць у яе адна карціна, якая называецца «Рукадзельніца». Маладзіца вышывала яе паўтара месяцы. Атрымалася выдатная рэч. Яна здала яе ў майстэрню на дарагое аздабленне рамкай з паспарту, пасля чаго карціна прыдбала сапраўдны шыкоўны выгляд. Калі ж майстрыха прывезла яе дадому, то ўважліва паглядзўшы на свой рукатворны шэдэўр, сказала для матулі:

— Заўтра занясу яе і пакажу ў доме культуры.

І сапраўды! «Рукадзельніца» выклікала ў кожнага з прысутных там вялікае захапленне. Усім адразу ж захацелася вось так вышываць, але не ў кожнага гэта атрымліваецца. Не хапае «цярпячкі»!

— Ой! Гэта ж зусім проста. Сеў і вышывай... — сказаў хтосьці з тых гледачоў.

— А што ёй? Ёй жа няма чым займацца, то і вышывае... — дабавіў другі.

— Таццяна! Вышый нам. Мы табе заплацім... — прапанаваў хтосьці трэці.

Але майстрыха рашуча ім заявіла:

— Не, сябры! Столькі, колькі каштуе мая праца, вы мне не заплаціце, а бясплатна, — вышывайце самі...

Адна толькі швачка-майстрыха пахваліла маладзіцу, разумеючы складанасць тэхнікі вышывання:

— Ну, Таццяна! Ты заставіш пасля сябе сапраўдную вялікую спадчыну.

Пачуўшы такое, вышывальшчыца заззяла радасцю на такую пахвалу і пагадзілася:

— Можа яно і так... У мяне ж няма багатай мэблі. Ды і не люблю я тых скрынь. Ад іх становіцца цесна ў хаце. Яны адбіраюць свабоду! У маім пакоі стаіць кніжная шафа, канапа, тэлевізар і кветкі. А на сценах — карціны. Калі вывожу іх на выставу, то хата тады пусцее і становіцца неўтульнай. Гэта прыкмеціла, нават, мая дачушка.

У гэты момант з-за спіны раздалося:

— Ой! А колькі ж гэта трэба сценак, каб размясціць столькі вялікіх карцін?!

— У нашай хаце вельмі многа сцен! А калі карцін стане шмат, то іх можна павесіць у тры і чатыры рады.

У абедзенны перапынак дачка прыйшла дадому і стала расказваць аб уражаннях, якія выклікала яе «Рукадзельніца».

— Усе хадзілі і толькі прыцмоквалі!

— Таццяна! Запомні! Тое, што ты стварыла — гэта твой талент! Зразумей! Ты гэтага дабілася сама! Кожная карціна, вышытая табою — гэта «Залатая зорка Героя Савецкага Саюза»! Дачушка, ганарыся сабою і ведай сабе цану! Нікога не слухай, а ідзі сваім шляхам, ствара́й прыгажосць, любуйся ёю, выстаўляй яе на выставы, каб людзі глядзелі і ў іхніх сэрцах, ад убачанага, квітнела дабрыня і любоў. Вось у гэтым і ёсць сапраўднае чалавечае шчасце...

*02.04.2015 г.*

# Дом, в котором живет праздник

**20 октября 2018 года состоялся большой праздничный концерт, посвященный 50-летию образования Тельмовского СДК. К празднику была подготовлена красивая выставка работ декоративно-прикладного искусства, работ народного творчества.**





Основное место занимала выставка «Рушник майго сяла», а также выставка фотографий истории развития деятельности клуба «Это было давно, это было недавно».

Гостей встречала красивая музыка в исполнении аккордеона — Прокопюк Евгений и скрипки — Прокопюк Екатерина.

Праздник начали дети — лауреаты Международных конкурсов и фестивалей. Самые маленькие участники — 5-летние Женя Крисанова, Милена Губанова, Ксюша Жминько.

## Из истории СДК

Полвека назад, в далеком 1968 году распахнул двери Тельмовский Дом культуры. Но пока шла стройка, тельмовчане уже начали готовиться к его торжественному открытию.

Два года на грузовых машинах, газиках и уазиках любители песни во главе с молодым директором совхоза Виктором Феликсовичем Доброжинецким ездили в Черни, там тогда был культурный центр, и готовили концертную программу. Первооткрывателями стал хор «Спадчына». Зал рукоплескал стоя. Овации были несмолкаемыми.

Первым директором СДК стала Татьяна Андреевна Гуд, человек ответственный, болеющий душой за свое дело. Затем руководство принял Георгий Петрович Кравчук — около 18 лет он отдавал свое сердце культуре. Уже тогда начались высокие победы в районных, областных смотрах-конкурсах, а уже в 1988 году работу Дома культуры высоко оценил Всесоюзный центральный совет профсоюзов.




На смену первым руководителям пришла влюбленная в культуру Татьяна Андреевна Прокопович. Бесконечные концерты, выступления агитбригады, поздравления на дому, чествования передовиков в поле. Планка взята была высоко.

И за прошедшие 50 лет Тельмовский СДК ее держал с честью. Через сцену Дома культуры прошло не одно поколение тельмовчан.

С 1990 года Дом культуры — в руках Галины Евгеньевны Крисановой, человека широкой души, отзывчивого, замечательного руководителя. Ей удалось собрать вокруг себя творческую семью, умеющую зажигать звезды. Семью, которая ежегодно радует сельчан калейдоскопом радостных праздников, фейерверком концертных программ, бережно храня национальные традиции и культуру. Вместе со ста восьмьюдесятью участниками каждую минуту, шаг за шагом по дороге к новым открытиям и победам идет коллектив Тельмовского Дома культуры.

Сегодня в Доме культуры — 20 клубных формирований, из них четыре народных коллектива, воспитавших 19 лауреатов различных уровней. Творческому коллективу Дома культуры, его воспитанникам — творческим талантам вручено 184 награды различного уровня.

Сегодня есть что вспомнить, есть чем гордиться и что передать молодому поколению. За эти годы Тельмовский Дом культуры стал добрым, сердечным домом, где живет искусство. Здесь находят занятия самые разные люди, самых разных профессий и самого разного возраста.

Руководители самодеятельных коллективов — это творческие люди, обладающие чувством невероятной любви к своему делу, воспитавших сотни талантливых людей, которые прославляют сельский Дом культуры на самых высоких сценах нашей страны.

## Слово о Галине Крисановой

При довольно напряженной работе в доме культуры Галина Евгеньевна является и профсоюзной активисткой — председатель Брестского районного комитета профсоюза работников культуры, информации, спорта и туризма с 2004 года, членом женсовета района.

Своего жизненного девиза — «Думай о важном, не забывай о каждом» — придерживается постоянно. За активную общественную деятельность в 2009 году получила звание «Женщина года». Истинно культурный, многогранный человек, умеющий зажигать творческой энергией окружающих, и, прежде всего, своих детей.

Здесь же, в СДК, ее старшая дочь Ирина заведовала массовым сектором, сын Дмитрий некоторое время «юморил» в КВНе. Кстати, они вместе с папой всегда на «подхвате» и в качестве видеооператоров, и в качестве художников. Внучки также пошли по стопам деятельной бабушки. Старшая Елена в 2009 г. стала лауреатом международного фестиваля «Золотые нотки», Светлана — лучшим конферансье Брестского района. Последняя отличилась больше всех, в четыре (!) годика ее признали лучшим игроком международной лиги КВН. В 2007 году ее желтый цыпленок, вылупившийся из яйца, стал визитной карточкой белорусской команды.



Галина Евгеньевна Крисанова

Мама Нина Никифоровна была участницей фольклорного коллектива «Сединка».

Галина Евгеньевна своей первоочередной задачей считает возрождение наследия предков, стремится передать будущим поколениям национальную культуру, традиции, основанные на духовных ценностях белорусского народа, идеалах гуманизма и добра, приобщить к творчеству людей разного возраста и профессий. Как пример — фольклорный коллективом «Сединка», которым

Г. Е. Крисанова руководит и по сей день. Коллектив был не единожды награжден грамотами управления культуры Брестского облисполкома «За захаванне і папулярызацыю мясцовай традыцыйнай культуры».

В СДК под руководством Галины Евгеньевны написана история деревни, чтобы люди знали свои корни, собрана этнографическая коллекция.

*«Пролетают века над землей, сгорают звезды, но остается вечным символом человеческая красота души. Проходит время, уходят люди творившие, и лишь память сохраняет и передает грядущим поколениям весть о величии былом. И ни годы, ни столетия не сотрут в памяти нашей тех, кто создавал и творил, увековечивал эпоху именем своим»* — эти слова являются основной мыслью памятки, разработанной Галиной Евгеньевной.

Созданы буклеты о всех местных ветеранах Великой Отечественной войны. Каждый год, 9 мая, жители Тельмов слышат очередной выпуск радиогазеты, посвященной великой дате. Этот местный культурный ресурс придумала и воплотила в жизнь Галина Евгеньевна. Ее голос в праздничный день вещает о трудном и тернистом жизненном этапе на пути к Победе.

Написана «Весть о Тельмах» и «Песнь о Тельмах». Благодаря этому, каждый, от мала до велика, знает историю родного края. Оформлены альбомы о развитии и жизни деревни — «Мая вёска», «Свята вёскі», «Таленавітыя людзі вёскі Тэльмы», «Славим руки золотые». Историю этих мест красочно воплощает уголок «Жив народ, пока жива его историческая память».

Всегда интересна постоянно действующая выставка «І гэта вёска ўсё мая», на которой представлены все виды народного творчества и ремесел: ручное вязание, вышивка, гобелен, пошив одежды и ткачество, выжег по дереву, соломка, флористика, аппликация.

На протяжении 50 лет двери Дома культуры были открыты для всех. А это сотни людей, детей и их родителей, бабушек и дедушек, которые ежедневно приходят в наш дом и проводят здесь немало времени.

Здесь находят занятия самые разные люди, самых разных профессий и самого разного возраста.





# О Доме культуры

Используются следующие формы работы: театрализованные праздники, обряды, концерты, выставки, конкурсы, викторины, беседы, тематические вечера, сюжетно-игровые программы, огоньки, мастер-классы, народные обряды, шоу программы, турниры, блицтурниры и др.

Все культурно-массовые мероприятия Тельмовского СДК имеют воспитательную направленность: эстетическую, экологическую, нравственную, духовную, направленность на возрождение народных традиций и популяризации народного фольклора и этнографии, а также организующую: здоровый образ жизни, отдых. Важное значение придается поддержанию народных традиций и гендерной культуре.

Проводятся мероприятия по организации свободного времени детей, молодежи, людей старшего возраста.

Работе с пожилыми людьми отводится особое место, с ней чаще всего сопряжена и работа по возрождению национальных традиций. Без участия пенсионеров и инвалидов не прошла ни одна выставка народного творчества, декоративно-прикладного искусства. Яркие самобытные праздники прошли в СДК: Колядки, Щедровки, Рождественские вечорки, а также «Свет вечнай зоркі» — этот народный праздник проходит только у нас.

Самый яркий пример работы с пожилыми людьми — деятельность вокального фольклорного коллектива «Сединка». Ни одно мероприятие, концерт или выставка в Доме Культуры не проходит без этих талантливых, легких на подьем женщин.

Ежемесячно проходят выставки работ народного творчества. Интересно оформлена выставка «Рушнік майго сяла».

Собран большой материал работ народного творчества, коллектив занимается историей народного костюма, в данный момент работает над вышивкой народной сорочки. Одна рубашка уже вышита и была представлена на выставка работ народного творчества.

В Тельмовском СДК ежемесячно проводятся выставки народного творчества, авторские выставки вышивки. Существует постоянно действующая выставка «І гэта веска ўсё мая», на которой представлены все виды народного



творчества и ремесел: ручное вязание, вышивка, гобелен, пошив одежды и ткачество, выжег по дереву, соломка, флористика, аппликация.

Особое место в работе Дома культуры занимает Лагутенок Людмила Васильевна — руководитель детских вокальных коллективов. Она мастер высшего класса, сама солистка. Ее воспитанники известны сегодня в Болгарии, России, Польше, Италии. Ящук Софья, Робенчук Аня, Мурашко Алина, Сацута Ангелина, Кондратюк Арсений, Губанов Тарас, Захар Мазько — вот те из немногих, которые поистине являются звездочками.

Народная вокальная студия «Феличита» — музыкальный коллектив, в состав которого входят: Кунцевич Андрей, Марозик Снежана, Супрунович Елена, Фомченкова Светлана, Житенева Марина, Прокопович Виталий, Прокопюки Евгений и Екатерина. Каждый из участников студии используется в роли солистов, и практически все участники исполняют сольные номера.

Программа коллектива расписывается для двух-, трех- и четырехголосного исполнения. В репертуаре коллектива календарно-обрядовые, народные песни, песни белорусских композиторов, итальянские хиты, а также ретро-шлягер, которому отдается огромное предпочтение. Совсем по-новому зазвучали ретро-хиты в современной обработке и аранжировке.

Народная вокальная студия «Феличита» — это визитная карточка не только Тельмовского сельского Дома культуры, но и района, области.

Сегодня с гордостью можно говорить о народном творческом клубе «ТДК», которым руководит Ковалева Светлана Александровна, человек широкой души, мастер своего дела, актер, поэт. Ее с большой любовью встречают дети на игровых программах, ее персонаж «клоуна», полюбился всем и детям и взрослым.

На празднике не забыли и о ветеранах клуба. Они отдали много сил и много души общему делу. Трудились на разных поприщах: от директора, художественного руководителя до костюмера, контролера, кассира, техработника, но одинаково добросовестно и творчески.

Всем присутствующим ветеранам в зале были вручены цветы.

Прекрасный концерт представили творческие коллективы Дома культуры. Завершилась концертная программа известными коллективами — Народный ансамбль песни «Спадчына», и его верный спутник, народный инструментальный ансамбль «Сябрына». Это самые известные, беззаветно отданные своему делу артисты.

Эти коллективы являются лауреатом многочисленных конкурсов и фестивалей. Руководители народного ансамбля песни «Спадчына» — Литвинчук Владимир Иванович, народного инструментального ансамбля «Сябрына» — Демянюк Виктор Леонидович.

## Награды юбилярам

**Грамотой Брестского районного исполнительного комитета** награждена **Лагутенок Людмила Васильевна** — за многолетний добросовестный труд, высокий профессионализм, творческие достижения, активную работу с подрастающим поколением и в связи с 50-летием Дома культуры.

**Благодарственное письмо Брестского районного исполнительного комитета** вручено **Ковалевой Светлане Александровне** — за развитие

художественной самодеятельности, сохранение и популяризацию народных традиций Брестского района и в связи с 50-летием Дома культуры.

**Грамотой Брестского районного Совета депутатов** награжден **Демянюк Виктор Леонидович** — руководитель народного инструментального ансамбля «Сябрына» — за многолетний и добросовестный труд, творческие достижения, сохранение и популяризацию народных традиций Брестского района и в связи с 50-летием образования сельского Дома культуры.

**Грамотой Брестского районного Совета депутатов** награждена **Каленкович Мария Андреевна.**

**Грамотами отдела идеологической работы, культуры и по делам молодежи Брестского райисполкома и районного комитета профсоюза** за многолетний, добросовестный труд, достигнутый высокий профессионализм, активную общественную работу, личный вклад в укрепление отраслевого профсоюза и в связи с 50-летием Тельмовского сельского Дома культуры награждены: **Фомченкова Светлана Петровна** — аккомпаниатор народной вокальной студии «Феличита»; **Марозик Снежанна Михайловна** — аккомпаниатор народной вокальной студии «Феличита»; **Масетич Алексей Антонович** — рабочий по обслуживанию; **Самойлюк Евгения Ульяновна** — технический работник Дома культуры; **Михневич Иван Викторович** — аккомпаниатор Дома культуры; **Герасимова Галина Витальевна** — сторож сельского Дома культуры.

**Почетная Грамота Брестского областного комитета Белорусского профсоюза работников культуры, информации, спорта и туризма** «За добросовестный труд, профессионализм, большой личный вклад в развитие культуры района, значительный вклад в развитие профсоюзного движения и организационное укрепление отраслевого профсоюза и в связи с 50-летием Дома культуры» вручена **Крисановой Галине Евгеньевне** — директору Дома культуры.

**«ПАДЗЯКА» Министерства Республики Беларусь «За шматгадовую, добрасумленную працу, высокі прафесіяналізм і узорнае выкананне працоўных абавязкаў» — Крисановой Галине Евгеньевне** — директору Дома культуры.

**Грамотой управления культуры Брестского облисполкома** награжден **Литвинчук Владимир Иванович** — руководитель народного ансамбля песни «Спадчына» — за многолетний добросовестный труд, высокий профессионализм, большой личный вклад в развитие, сохранения и популяризацию народной песни, активное участие в культурной жизни Брестчины и в связи с 50-летием образования Дома культуры.

**Грамотой Брестского районного объединения профсоюзов** награждены **Приходько Елена Николаевна** — руководитель кружка декоративно-прикладного искусства — за добросовестный труд, профессиональное мастерство в декоративно-прикладном искусстве, работу с подрастающим поколением и в связи с 50-летием образования СДК д. Тельмы, а также **Зубик Нина Васильевну** — за многолетнюю добросовестную работу, достигнутый высокий профессионализм, активную общественную работу, личный вклад в укрепление отраслевого профсоюза и в связи с 50-летием Тельмовского сельского Дома культуры.

Закончился праздник выходом всех участников песни «Мы единое целое» и выносом огромного юбилейного торта.

# Людзі шчаслівага лёсу

## *Дзень працаўнікоў культуры ў Брэсцкім раёне*

**У раённым Доме культуры адбылося ўрачыстае віншаванне працаўнікоў культуры Брэсцкага раёна з прафесійным святам, на якім былі прадстаўнікі культурна-дасугавых устаноў, бібліятэк, музея, кіраўнікоў і педагогаў дзіцячых школ мастацтваў, кіраўнікоў узорных і народных творчых калектываў.**

Культпрацаўнікі — гэта выдатныя людзі, якія захапляюць жыхароў нашага рэгіёна ў цудоўны свет мастацтва і напаўняюць яго прыгажосцю, каханнем і творчасцю, даруючы цяпло сваіх сэрцаў людзям.



Пасля прывітальнай імпрэзы вядучых свята Арцёма Валашчука і Алены Савонік, на сцэну быў запрошаны старшыня Брэсцкага райвыканкама Уладзімір Сянчук, які акцэнтаваў увагу на найбольш значных дасягненнях культуры раёна, шчыра павіншаваў прысутных з іх прафесійным святам, а таксама ўзнагародзіў дырэктара Дамачаўскага ПДК Таццяну Пятроўну Абдуразакаву Ганаровай граматай райвыканкама за шматгадовую працу, творчую актыўнасць, дасягнутыя вынікі ў справе развіцця і прапаганды беларускай культурнай спадчыны.

Ганаровай граматай райсавета быў узнагароджаны Валковіч Аляксандр Міхайлавіч, рэдактар і складальнік альманаха





«Астрамечаўскі рукапіс» за рэалізацыю маштабнага творчага праекта.

Граматы за поспехі ў справе культуры і ў сувязі з прафесійным святам атрымалі з рук начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Балашовай Ларысы Пятроўны лепшыя працаўнікі культуры.

Цёплых слоў, шчырых апладысментаў у зале было шмат і пад час узнагароджвання, і калі гучалі песні ў выкананні артыстаў сцэны.

Сцэнарый свята быў прадстаўлены ў трохі іншым фармаце, чым звычайна, — у выглядзе шоу. Па прыкладу тэлевізійнога праекта «Голас».

У ролі членаў прафесійнага журы конкурса-шоу выступілі чатыры настаўнікі, прызнаныя майстры музыкі і сцэны: Лагуцёнак Людміла Васільеўна — кіраўнік дзіцячых вакальных калектываў «Радуга», «Кантабіле» Тэльмаўскага сельскага Дома культуры, Нярода Алег Яўгенавіч — кіраўнік народнага ансамбля песні «Дабрадзеі», а таксама Петруковіч Ганна Міхайлаўна — дырэктар раённага метадычнага цэнтра і Карака Вольга Уладзіміраўна — метадыст раённага метадычнага цэнтра, якія праводзілі сляпыя праслухоўванні.

Удзельнікі дэманстравалі перад аудыторыяй па прапанове настаўнікаў свае вакальныя здольнасці ў выкананні эстраднага, народнага, акадэмічнага вакалу, тэатралізацыі, гумару, танцаў.

Першы ўдзельнік Андрэй Савацееў прапанаваў песню «Озеро Надежды». Таццяна Гантарэнка, дырэктар Матыкальскага сельскага дома культуры, усіх уразіла народнай манерай выканання «Ах, мамочка!» Ірына Біленка інтэрпрэціравала сваё выкананне песні «Обезоружена». Рыгор Борсук здзівіў выкананнем песні «Дорогой длинною» у стыле рэпа. Аудыторыя ўдзячна сустрэла апладысментамі Жану Вярсо. Вольга Нінічук, а таксама Ігар Кушнір прывялі ў захапленне ўсю глядальную залу. Пакарыў сваім выступам і метадыст раённага Дома рамёстваў Фёдар Мартыновіч. Заваражыў жаночую палову Сяргей Іванюк, а таксама Міхаіл Грышын. Напрыканцы ўсе выступаючыя атрымалі дыпломы ўдзельнікаў вакальнага шоу.

Мерапрыемства атрымалася арыгінальным, таленавітым, эмацыйным.

Прыемны адпачынак і зарад дадатковымі эмоцыямі, выдатны настрой, зіхатлівыя ад захаплення вочы і ўдзячныя ўсмешкі гледачоў. Менавіта такі водгук умеюць выклікаць людзі, якія валодаюць талентам, майстэрствам і неверагоднай адданасцю — гэта працаўнікі культуры, людзі шчаслівага лёсу.

*Алёна* ПАДДУБНАЯ

# «Беларускія калядкі»

*Сцэнарый тэматычнага прадстаўлення*
*Распрацоўка Астрамечаўскага СДК*
*Падрыхтавала Людміла МЕЛЬНІК*

***Свята адбываецца ў Астамечаўскім СДК.***
*Гучыць беларуская народная музыка ў запісу (дзяржаўны аркестр імя Жыновіча).*

***Мэта:** захаванне народных абрадаў і перадача іх маладому пакаленню.*

**У свяце прымаюць удзел:**
*народны ансамбль музыкі і песні «**Астрамечаўскія Лявоны**», аматарскія аб'яднанні «**Скарбніца**», **Залаты ўзрост**», «**Сілуэт**», «**Гаспадынька**», ражаны з «**зоркай**», казачныя персанажы.*

Дзеючыя асобы: **две вядучыя, пяць калядоўшчыкау, гаспадар, гаспадыня, чорт, баба Яга, цыган, Агата і інш.**

*На сцэне размешчаны дзве імпразаваныя хаты. Да мікрафону падыходзяць вядучыя.*

**Першая вядучая:** Добры вечар добрым людзям!
Хай вясёлым свята будзе!
З Калядою паздраўляем,
Шчасця, радасці жадаем!

**Другая вядучая:** Добры вечар, шчодры вечар!
Усім вам шчасця і здароўя!

**Першая вядучая:** Так уж павялося ў народзе, што ў гэты святочны вечар людзі віншуюць адзін аднаго, а кожны гаспадар чакае гасцей, бо што госці пажадаюць у гэты святочны вечар, тое і збудзецца.

**Другая вядучая:** Тая хата будзе ўсім багата, дзе прайшлі калядоўшчыкі, дзе яны добрае слова сказалі, на шчасце і багацце жыта пасыпалі.

**Першая вядучая:** Давайце і мы завітаем на свята ў нашу хату.

*Пад вясёлы смех і гоман калядоўшчыкі і музыкі падыходзяць да імпразаванай хаты, дзе гаспадары чакаюць гасцей.*

**Гаспадар:** Але ж сёння і надвор'е! Добры гаспадар сабаку з хаты не выганіць. Не соладка прыходзіцца калядоўшчыкам.

**Гаспадыня:** Нічога ім не зробіцца!
Незадоўга з'явяцца.
Лепш сены на стол пасцялі.



*(Гаспадар сцеле сена на стол, гаспадыня накрывае стол абрусам. У гэты час у хату заглядвае Чорт).*

**Чорт:** У-у-у-у! Весяляцца! Радуюцца! Свята ў іх! Паглядзім, якое ў вас свята атрымаецца! Развеселіліся, а пра мяне, Чорта, забыліся! *(пагражае кулаком)* А пакуль схаваюся ў гэты мяшок *(хаваецца ў мяшок і час ад часу выглядае з яго, робіць смешныя рожыцы, паціху шкодзіць, забаўляе дзяцей і прысутных)*

**Гаспадар:** Чуеш, жонка, калядоўшчыкі ўжо каля сымонавай хаты спяваюць. Хутка да нас прыйдуць.

*(Калядоўшчыкі падыходзяць да хаты, стукаюць у дзверы)*

**Калядоўшчыкі:** Ці дома гаспадар?

**Гаспадар:** Дома, дома!

**Другі калядоўшчык:** А ці дома гаспадыня?

**Гаспадыня:** Заходзе, гасцейцы дарагія!

*(Калядоўшчыкі спяваюць песню «Тупу-тупу на памосце»)*

**Трэці каладоўшчык:** Добры вечар таму, хто ў гэтым даму!
Дазвольце песню спяваць.
ваш дом павіншаваць.
Можна?

*(Калядоўшчыкі спявацю песню «Шчодры вечар»)*



**Чацвёрты калядоўшчык:**

Добры вечар добрым людзям!
Хай вяселым свята будзе!
З калядою паздраўляем!
Шчасця, радасці жадаем!

**Гаспадыня:** Адкуль вы, людзі добрыя?

**Першы калядоўшчык:**

Ідзем круг света
Аж ад пана лета.
Мы ідзем, Мядзведзя вядзем,
Шчасця вам нясем!

*(Мядзведзь радасна скача, перакульваецца праз галаву, танцуе. Усе пляшчуць у далоні)*

**Чацвёрты калядоўшчык:** А яшчэ з намі Каза ідзе!

**Каза:** Ме-е-е-е!

**Трэці калядоўшчык:** Каза наша вучоная.
Прайшла ўсе навукі,
Ведае розныя штукі.
Нут-ка. Козачка, расхадзіся!
Нут-ка, Козачка, развесяліся!
*(Каза весела скача, раптам падае)*

**Гаспадыня:** Ой, што гэта з нашай Казой зрабілася! Зусім наша Каза заняпала, здохла! Ё Прапала!

**Першы калядоўшчык:** Каб нашай Казе на кожны ражок — піражок, дык наша Каза ўстала б!

**Гаспадар:** Гаспадар ідзе, каўбасу нясе.
Тры кускі сала, каб Каза ўстала!
І меру жыта, каб яна была сыта!





**Гаспадыня:** Вось табе, Козачка, на кожны ражок — піражок!

*(Каза встае і весела танцуе)*

**Чацвёрты калядоўшчык:** А ну, Козачка, скажы гаспадарам, якое жыта, якая пшаніца вырасце ў гэтым годзе?

*(Каза падбягае да стала і выцягвае доўгую сяніну з-пад абруса).*

**Пяты калядоўшчык:** О, добры ураджай будзе! Наша Каза нешта сказаць хоча.

**Каза:**

Пайшла Каза калядуючы, эх, Каза!
А за ёй дзеўкі шчадруючы.
Зайшла Каза ў адну хату —
А ў гэтай хаце сала шыпіць.
А ў другай хаце серабро звініць!
Зайшла Каза ў трэццю хату —
А там пірагі пякуць,
Ды і нам, добрым людзям, дадуць!
Будзь, Гаспадар, здароў,
Як сівы бораў.
Май торбу грошай,
Жыві ў раскошы,
Май усяго даволі,
А бяды — ніколі!

**Каза:**

Стары года канчаем, Новы пачынаем.
З ранняю вясною, з буйнаю травою,
З збожжам каласістым, з зернем ядрыстым!

*(Пасыпае жытам усіх гасцей)*

Сею, сею, павяваю! Вас са святам паздраўляю!
На новае лета радзі, Божа, жыта.





Жыта, пшаніца, авес, чачавіца
Знізу караніста, зверху кусціста,
Каб на будучы год было ўсяго болей упрок!

**Баба Яга:** Разыдзіцеся, расступіцеся! Прапусціце пажылую маладзіцу! Харавод ведзьмарак старых мяне сюды накіраваў глядзець, каб сёння не здарылася якіх благіх і страшных спраў. Каб Чорт, які ў камандзіроўцы, ці п'яніца-вурдалак, напіўшыся твані і блыдоты, не перашкодзіў нам ніяк! Даражэнькія! Шырэй круг! Музыканцікі, весялей грайце! Я маладзіца яшчэ маладзенька! Мне ўсяго 300 год. Запрашаю ўсіх у карагод!

*(Усе танцуюць польку, кракавяк, выконваюць прыпеўкі. У гэты час Чорт выскоквае з мяшка і пачынае рабіць розную шкоду: тузае калядоўшчыкаў і гасцей. Раптам выцягвае з-пад кашулі нейкую рэч і кідае яе ў натоуп (мяч)).*

**Першы калядоўшчык:** Нячыстая! Нячыстая!

*(Удзельнікі перакідаюць мяч, абвязаны каляровымі стужкамі, з рук у рукі. Потым Чорт хапае яго і хавае за пазуху)*

**Баба Яга:** Усе гэта Чорта прадзелкі! Гэта ён нячыстую сілу на нас наклікаў!

**Другі калядоўшчык:** Не палохайцеся, людзі добрыя! Гэта ён з перапою, бо набраўся ўчора, як жаба мулу, вось з яго нячыстая і выходзіць.

**Гаспадар:** Чым вы мяне яшчэ парадуеце, пацешыце, калядоўшчыкі дарагія?

**Трэці калядоўшчык:** Мядзведзем вясёлым! Ну-ка, Мішанька, паскачы харашэнька! Пакажы часной публіцы, як п'яны Янка з кірмаша ідзе!

*(Мядзведзь паказвае)*

**Чацверты калядоўшчык:** Міхал Патапыч! Пакажы, як баба цеста ўдзяжы месіць!

*(Мядзведзь паказвае)*

— А пакажы, як дзеўкі перад люстэркам упрыгожваюцца, аб сужыным кручыняцца!

— А як гультай праце!

*(Мядзведзь паказвае)*

— А цяпер, Міхал Патапыч, пакланіся Гаспадару з Гаспадыняй, няхай нясуць яны кваску ды дзяжу мядку.

*(Гаспадар з Гаспадыняй частуюць Мядзведзя. У час у хату заходзяць Цыган з Канем)*

**Трэці калядоўшчык:** А вы, гаспадары, не скупіцеся, булкамі ды каўбасамі падзяліцеся! А яшчэ з намі Цыган знатны ідзе!

**Цыган:**
Вынесь, вынесь, гаспадару,
Капу яек на паўміску,
Белым сырам памазаўшы,
Каўбасою абкруціўшы!

**Гаспадар:** А чым ты мяне пазабавіш?

**Цыган:** Я цыган багаты, у мяне ў адным кармане — вош на аркане, у другім — блыха на цапе. А вось Кабыла, якой нідзе не знойдзеш! Прадаю дарам, усяго за тышчу!

**Гаспадар:** Ды за такую Кабылу і грош шкада даць!

**Цыган:** Многа ты разумееш! Вось зараз сам убачыш яе здольнасці! *(гладзіць кабылу).* Мая Кабыла да ласкі згодная *(кабыла лягае яго).* А ты паслухай, як яна ржэ! А ты паглядзі, якая ў яе паходка царская! *(цягне кабылу, піхае яе ў зад, кабыла стаіць, як укопаная, затым ідзе, хістаючыся, Цыган яе падтрымлівае. Нарэшце Кабыла весела ржэ, тупае нагамі, раптам кашляе. Вядзе кабылу да людзей, нахвальвае).*

— Прадаю кабылу ўсяго за тышчу... даляраў! А як яна імчыць, то зямля дрыжыць! *(Кабыла бегае, затым падае) «Астрамечаўскія Лявоны» іграюць польку.*

Цыган чухае патыліцу, ледзь не плача.

— Цераз вас такую кабылу загубіў! Уставай! Уставай!

*(Усе падымаюць кабылу і агульнымі намаганнямі выводзяць са сцэны).*

**Цыган:**
За такую чэсць давай карбованцаў шэсць.
І тры кускі сала, каб Кабыла ўстала!

*(Гаспадар выносіць пачастунак у кошыку. Буталь з надпісам «Самагон «Астрамечаўка». Частуе ўсіх самагонам, гуркамі, салам).*

**Цыган:** Дай табе ўсяго, пан гаспадар: і ў каморы, і ў амбары, і на стайні вартыя коні!

**Чацверты калядоўшчык:** Даражэнькія гаспадары! Нездарма ў народзе кажуць: калі разам не танцавалі, не спявалі, то і не весяліліся! Дазволь, пан гаспадар, тваю гаспадыньку на кракавяк запрасіць?



**Гаспадар:** Няхай сябе патанцуе ды і я нагою тупну. Во колькі тут дзяўчат ладных ды прыгожых!

**Пяты калядоўшчык:** Дзякуй гэтаму хлебасольнаму дому! Пойдзем к другому!

*(Усе весела развітваюцца з гаспадарамі. Калядоўшчыкі падыходзяць з песней «Каляда» да другой хаты. У хаце за сталом ля люстэрка сядзіць гаспадыня Агата. Калядоўшчыкі стукаюць у дзверы).*

**Першы калядоўшчык:** Гу! Гу! Гу!
Дайце то, што на рагу.
Кішкі, каўбаскі, пшоннае кашкі!

**Агата:** Каго там лішанька нясе? Я яшчэ ў печы не паліла, есці не варыла. А дзе ж я вам каўбасы вазьму? Свіней не трымаю, баюся пазногці паламаць ды і пах ад іх... Фі-і-і! Адна брыдота! Каровы ў мяне няма. Яна ж бадаецца!

**Першы калядоўшчык:** Гаспадынька, чым вас парадаваць?

**Агата:** Чым, чым... А нічым. Я сама сабе радасць прыношу. Вось учора суседчынаму пеўню нагу — раз і перабіла. А на той нядзелі апошнюю суседчыну курачку даела. Во то радосць! Я даўно ад Нічыпара стаўбы укапала і электрычнасць высокай напругі правяла.

**Другі калядоўшчык:** Гаспадынька, мо вам песню заспяваць?

**Агата:** Ха! Песню! Я сама спяваю, як зводны хор. Я магу і за Пугачову, і за Кіркорава... Ды я... Ды я... На дваццаті мовах нават магу!

**Трэці калядоўшчык:** Дык можа табе нашу Козачку паказаць?

**Агата:** І навошта мне ваша Козачка пузатая? А ну прэч пайшла! Згіньце адсюль!

**Чацверты калядоўшчык:** Ай-я-я-й... Якая гаспадыня сварлівая. Мы пра вас усё у вёсцы раскажам.



**Пяты калядоўшчык:** А ў гэтай хаце
Няма чаго даці!
Печ абадрана,
Гаспадыня пагана!

**Агата:** Ну, пачакайце ўжо! Вось вам каўбаска, булка. Частуйцеся!

**Першы калядоўшчык:** Даўно б так! Дазволь, гаспадыня цябе на кракавяк запрасіць?

*(Усе танцуюць беларускія народныя і сучасныя танцы)*

**Гаспадар:** Чаму ж мне не пець?
Чаму ж не гудзець?
Калі ў маей хатачцы парадак ідзець!

**Першы калядоўшчык:** Са святам вас, дарагія аднавяскоўцы!

**Другі калядоўшчык:** Дай вам Божа жыць у раскошы, мець торбу грошаў!

**Трэці калядоўшык:** Каб багатыя былі і сто гадой жылі!

**Чацверты калядоўшчык:** Сейся, радзіся авес, чачавіца.

Зверху — кусціста,
Знізу — караніста.
Каб на будучы год
Было ўсяго болей і ўпрок!

**Каза:** Сею, сею, павяваю, з новым годам паздраўляю!

**Першы калядоўшчык:** Вам, дарагія, жадаем сыноў пажаніці, дачок замуж пааддаваці, унукаў даждаці!

**Другі калядоўчык:** Будзь, Гаспар, здароў,
Як сівы бораў.
Май торбу грошаў,
Жыві ў раскошы.
Май ўсяго даволі,

**Усе:** А бяды ніколі!



# Памяти Евгении Янищиц


Поэтесса Евгения Янищиц. 1981 год, Минск. Фото: Владимир Крук, БГАКФФД

70 лет назад, 20 ноября 1948 года, в деревне Рудка (теперь Пинский район) родилась знаменитая белорусская поэтесса Евгения Янищиц. Редкий случай: свою фамилию Евгения получила от первого мужа матери, Йозаса Янищица, который погиб на фронте в 1944-м, еще до ее рождения.

Известность пришла к Янищиц рано. В 1962 году ее первые стихотворения были опубликованы районной газете «Полесская правда». В 17-летнем возрасте она уже печаталась в республиканской прессе.

Окончила филологический факультет БГУ, работала в «Сельской газете» и журнале «Маладосць». Участвовала во всесоюзном съезде молодых поэтов и писателей. В 1970 году выходит ее первый сборник стихов.

В 1971 году вышла замуж за белорусского поэта и журналиста Сергея Понизника и переехала в Чехословакию, где тот проходил военную службу. Однако брак был недолгим — уже в 1972 году Евгения Янищиц вернулась в БССР, где 14 ноября родила сына и воспитывала его одна.

Член Союза писателей СССР с 1971 года. В 1981 году как член делегации БССР участвовала в работе XXXVI сессии Генеральной ассамблеи ООН.

Ушла из жизни 25 ноября 1988 года, выбросившись из окна своей минской квартиры.

Хрестоматийным стало ее стихотворение «Ты пакліч мяне, пазаві».

Ты пакліч мяне. Пазаві.
Там заблудзімся ў хмельных травах.
Пачынаецца ўсё з любві,
Нават самая простая ява.
І тады душой не крыві
На дарозе жыцця шырокай.
Пачынаецца ўсё з любві —
Першы поспех і першыя крокі.

Прыручаюцца салаўі,
І змяняюцца краявіды.
Пачынаецца ўсё з любві —
Нават ненавісць і агіда...
Ты пакліч мяне. Пазаві.
Сто дарог за маімі плячыма.
Пачынаецца ўсё з любві,
А інакш і жыць немагчыма.

# По дорогам моей малой родины

**Как сказал Президент нашей республики Александр Лукашенко, малая родина многогранна: «Для одних это родной город, улица в городе или небольшой дворик, деревня, где прошли лучшие детские годы, для других — кусочек дикой природы, который радовал глаз и дарил чувство наполненности и покоя».**

И если словами зачастую непросто выказать любовь и привязанность к месту или человеку, то фотоснимок достоверно отразит бесценную сущность момента и позволит понять чувства находящихся рядом людей!

Больше возможностей любоваться красотой Брестского района через искусство фотографии появилось благодаря конкурсу фотографий «Все это родина моя», объявленному Брестской районной библиотекой. Конкурс продлен до 15 января 2019 года, а на страничке читательской группы библиотек района «Путешествующий по книгам» в социальной сети «ВКонтакте» творческие натуры соревнуются в пяти номинациях: «Семья в объективе», «Палитра родины моей», «Для души и сердца», «Застывшая история», «Человек дела».

Эстафету у первых участников подхватили жители городского поселка Домачево, агрогородков Остромечево, Томашовка, деревни Лыщицы.

В творческом тандеме работают дедушка Анатолий Прокопюк с внуком Семеном, жители городского поселка Домачево. Куда бы ни отправлялись эти лучшие друзья в их руках фотоаппарат и умение запечатлеть утренний лес, закат на реке, звездное небо над родным поселком. Фотографии «Купаясь в солнечных лучах», «Умиротворение природы», «Купола под звездным небом» наполнены светом, покоем и полны радости жизни. А на снимке «Хороша ты, моя деревенька!» Анатолий Прокопюк предлагает взглянуть на родные места с неожиданного ракурса — высоты птичьего полета!

Очарованы многоцветной палитрой родной природы участницы конкурса, жительницы деревни Лыщицы Александра Нерода, Татьяна Малинина, Анна Кравец, Лилиана Коляда. Независимо от того, в какую пору года были сделаны фотографии, на каждой — стремление показать, что в какую сторону не пойди, везде — в лесу, в поле можно найти живописные пейзажи. Так и хочется пройти «По ве-



сенней дороге» с Александрой Нерода, пробежаться по цветочному лугу «А навстречу мне ромашки...» Татьяны Малининой, вдохнуть аромат «Золотых цветов» Анны Кравец.

Главные герой фотографий Елены Лозинской, Татьяны Тригубовой и Ольги Старун из д. Ковердяки — дети. Их непосредственностью и трогательной красотой можно любоваться бесконечно. Авторы снимков постоянные посетительницы Ковердякского сельского Дома культуры, их дети — участники любительских объединений, различных театрализованных спектаклей, конкурсов. Моменты закулисного действа нашли отражение в фотографиях Ольги Старун «Играем в переодевание», Татьяны Тригубовой «Маленькая прыгажуня», Елены Лозинской «Як звівала я вяночак».

Наверно, в рубрику «Человек дела» можно отнести фотографию Лилианы Коляды «Моя мама — рыбачка». На самом деле Елена Коляда — библиотекарь Лыщицкой сельской библиотеки, человек ответственный и болеющий за свою работу. Впрочем, любому делу, за которое она берется, гарантирован успех, даже в таком непростом, как рыбная ловля!

Удачный кадр удалось сделать в день празднования Дня Победы жительнице агрогородка Томашовка Ольге Сидорук, она предлагает нам вглядеться в лицо ветерана Великой Отечественной войны Антона Кондратьевича Карпюка, человека уважаемого и заслуженного. О чем он думает, что вспоминает, какие эмоции бушуют в нем, внешне бесстрастном, в этот теплый, праздничный день? Об этом должны подумать мы, зрители!

Почувствовать настроение, которое хотел передать автор можно, глядя на снимки Татьяны Левонюк «Прошай детство» (аг. Черни), Тамары Лащевской «В библиотеку дружно прибыл семейный наш отряд. Семья Барабанщиковых» (аг. Остромечево), Анны Нигериш «Свежее впечатление» (гп. Домачево).

Судя по количеству фотографий и географии населенных пунктов района, конкурс набирает обороты. Оказывается в Брестском районе достаточно много людей, которые увлекаются искусством фотографии, способны передать творческое видение и атмосферу снимка! Это отлично!

Приглашаем всех, кому есть чем поделиться, принять участие в конкурсе «Все это родина моя», а мы, зрители, будем только благодарны за доставленное удовольствие и возможность заочно побывать в самых прекрасных местах нашей малой родины — Брестского района!

*Элла МОРОЗОВА,*
*библиотекарь сектора маркетинга*
*Брестской районной библиотеки*



# Конкурс продолжается. Ждем новых участников!



**Маленькая прыгажуня.**
Тригубова Татьяна, Ковердяки



***Играем в переодевание.*** *Старун Ольга, Ковердяки*

***А навстречу мне ромашки и травы родной стороны.*** *Малинина Д. А., Лыщицы*



***Як звівала я вяночак.*** *Елена Лозинская, Ковердяки*





Семья Барабанщиковых, Остромечево



***Свежее впечатление.***
*Нигериш Анна, Домачево*



***Золотые цветы.*** *Кравец А. Г., Лыщицы*



***Хороша ты моя деревенька.*** *Прокопюк А. И., Домачево*

***Прощай, детство!*** *Татьяна Левонюк, Черни*



*Сидорук Ольга, Томашовка*



**Ветеран**



**По весенней дороге**

*Прокопюк Семен, Домачево*



**Купола под звездным небом**



**Умиротворение природы**



**Купаясь в солнечных лучах**

